Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
пак. № 415.
Тэл. № 22-540.

№ 12 (48) | Год выдання 2-гі | 22 мая 1936 г. | № 12 (48)

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Для ажыццяўлення аперацыйнага кантроля за ходам выканання планаў рэалізацыі промтавараў распрацован план праверкі баз прамысловасці і фабрычных складаў. На працягу мая будуць правераны базы Хлопказбыта, Швейзбыта, Скурзбыта, Рыбзбыта і Кандытарзбыта ў Менску, фабрычныя склады запалкавай фабрыкі „Везувій" і папяровай фабрыкі „Герой працы".

◆ Загадам па Наркамату Ўнутранага Гандля БССР студэнтамі вячэрняга універсітэта стаханаўцаў савецкага гандля залічаны 147 стаханаўцаў і выдатнікаў гандлёвай сеткі сталіцы БССР.

◆ Дырэктарам гандлёвых арганізацый даручана неадкладна выявіць патрэбнасць у перавозках грузаў водным транспартам і даць дадатковыя заяўкі. Там, дзе гэта магчыма, неабходна пераключыць перавозку грузаў водным транспартам. Трэба забяспечыць бесперабойную і своечасовую дастаўку грузаў да прыстаней.

◆ У мэтах недапушчэння псавання пры перавозках з рыбучасткаў рыбы мясцовага ўлова, Белрыбтрэсту прапанавана адпускаць рыбу з рыбарцелей бліжэйшым райсаюзам і сельпо па ўказанню Белкаапсаюза для рэалізацыі яе на месцы. Белрыбзбыт абавязан практыкаваць выдачу нарадаў на адгрузку свежай рыбы гандлюючым арганізацыям непасрэдна з рыбарцелей, мінуючы базы Рыбзбыта.

◆ Па сігналах газеты „Звязда" аб засмечанасці класава-варожымі элементамі Магілеўскай канторы Белхарчгандля звольнены з работы рад работнікаў гэтай канторы: былы загадчык хлебнай групы канторы Кроль, старшы таваравед—Шкель, работнік па кадрах—Раскін, загадчыкі магазінаў і прадаўцы Наер, Галубчына, Мендэльсон і Пеўзнер.

Дырэктар Магілеўскай канторы Белхарчгандля т. Астраў папярэджан, што ў выпадку далейшых несур'ёзных адносін да падбору кадраў ён будзе прыцягнут да суровай адказнасці.

◆ У выніку праверкі скаргі пакупніка Цытрэняк, Наркамунутгандаль даручыў дырэктару Менхарчгандля абвясціць суровую вымову загадчыку хлебным аддзелам магазіна № 52 Лазоўскаму і загадчыку гэтага магазіна Анталовічу за продаж нядобраякасных тартоў, грубыя адносіны да спажыўцоў. Тт. Анталовіч і Лазоўскі папярэджаны, што пры паўтарэнні падобных фактаў у далейшым яны будуць звольнены з работы.

◆ Памяшканне магазіна № 2 Белпромгандля па Ленінскай вуліцы перадана пад магазін Саюзгалантарэйтрыкатажгандля.

◆ За перавыкананне плана I квартала, укараненне новых форм абслугоўвання пакупнікоў—дастаўка на дом, арганізацыя паштучных аддзелаў, санітарнае становішча магазінаў, укараненне культурных метадаў гандля,—загадам па Наркамунутгандлю прэміраваны імяннымі гадзіннікамі дырэктар „Гастранома" № 1 т. Каган і дырэктар магазіна № 5 т. Хействер.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ПРАВІЛЫ ГАНДЛЮ ТЭКСТЫЛЬНЫМІ ТАВАРАМІ

*(Зацверджаны пастановай Наркамунутгандля СССР № 200)*

### I. Агульная частка

1. Розьнічныя магазіны тэкстыльных тавараў (спецыялізаваныя і змешаныя) павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка ў адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента тэкстыльных тканей.

2. Снабжэнне магазіна праводзіцца ў цэнтралізаваным парадку як праз вышэйстаячую гандлёвую арганізацыю, так і непасрэдна пастаўшчыкамі ў межах і за рахунак вызначаных магазіну фондаў.

Звыш цэнтралізаванага снабжэння магазін абавязан забяспечыць дадатковае паступленне тавараў у магазін у дэцэнтралізаваным парадку, шляхам самазакупак непланіруемага тэкстыля, у мэтах папаўнення асартымента і задавальнення растучага попыту спажыўца.

3. Магазін абавязан сачыць за тым, каб фактычныя тварныя астаткі (запасы) адпавядалі ўстаноўленым вышэйстаячай гандлёвай арганізацыяй лімітам астаткаў, якія павінны ўлічвацца пры складанні гандльфінплана і планаў завозу (гадавых, квартальных, месячных і т. д.) у адпаведным асартыменце і якасці.

4. Магазін павінен праводзіць адпаведныя мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай расстаноўкі рабочай сілы і ўшчыльненню рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання спажыўца, у прыватнасці, пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін неабходна, каб у гадзіны максімальнага наплыву пакупнікоў у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў з тым, каб колькасць іх змяншалася ў гадзіны адносна слабага гандля.

5. Магазін абавязан забяспечыць праходжанне ўсімі работнікамі магазіна ўстаноўленага тэхмінімума і сістэматычна павышаць іх кваліфікацыю.

6. Магазіны павінны ўтрымлівацца ў чыстаце з захаваннем устаноўленых санітарных правіл.

7. Магазін павінен весці ва ўстаноўленым парадку ўлік тавараў такім чынам, каб у любы час можна было ўстанавіць прыход, выдатак і астатак тавараў.

### II. Прыёмка

8. Прыёмка тэкстыльных тавараў праводзіцца ў падсобным памяшканні, якое ўпаўне прыстасавана да прыёмкі і распакоўкі тавараў, хавання магазінных запасаў і падрыхтоўкі тавара да продажу і т. д.

9. Усе атрымліваемыя магазінам тэкстыльныя тавары прымаюцца як па колькасці, так і па якасці дырэктарам магазіна або ўпаўнаважанымі ім на гэта асобамі.

Адказнасць па прыёмцы нясуць тыя асобы, якія фактычна праводзяць прыёмку.

10. Прыёмшчык абавязан у першую чаргу праверыць уважлівы агляд становішча тары, упакоўкі і цэльнасці пломб. Пры выяўленні няспраўнасцей у тары (разрыў рагожы, цюка, разрыў вяровак ці абвязачнага жалеза, падмочка цюкаў або скрыняў і т. д.) або ўпакоўцы, прыёмшчык абавязан ускрыць (распакаваць) данае месца і праверыць тавар.

У гэтым выпадку, а таксама ў выпадку колькаснага разыходжання фактычнай наяўнасці тавара з данымі суправаджальных дакументаў, прыёмшчык абавязан скласці адпаведны акт з удзелам і за подпісам сваёй, здатчыка прымаемага тавара і прадстаўніка прафарганізацыі.

Колькасць прымаемых у магазін тэкстыльных тавараў вызначаецца шляхам іх узважвання, падліку і вымервання.

11. У выпадку адсутнасці якіх-небудзь дэфектаў у тары і ўпакоўцы, а таксама ў выпадку саўпадзення фактычнай наяўнасці тавара з данымі суправаджальных дакументаў, прыёмшчык абавязан зрабіць адпаведную адзнаку ў дакуменце, які суправаджае тавар.

12. Пасля агляду тары і ўпакоўкі і зверкі атрыманага тавара з данымі ў суправаджальных дакументах (фактурах, накладных, спецыфікацыях і т. д.) належыць прыступіць да якаснай прыёмкі шляхам забракоўкі паступіўшых у магазін тавараў (вызначэнне парокаў, якасці і афарбоўкі, пячаткі і аддзелкі тканей, адборка пробных кавалкаў і т. д.).

13. Вызначэнне якасці паступіўшых у магазін тканей праводзіцца па іх знадворнаму выгляду, па колькасці знадворных парокаў, якія ёсць на ткані, і шляхам аднясення данай ткані на аснове ўсіх выяўленых парокаў да таго ці іншага якаснага гатунку.

Аднясенне да таго ці іншага якаснага гатунку кавалкі ткані па суме парочных адзінак праводзіцца ў адпаведнасці з дзейнічаючымі па тэкстылю стандартамі і інструкцыямі па разбракоўцы тканей розных валакон, у залежнасці ад асаблівасцей іх вытворчасці, назначэння і характару скарыстоўваемай сыравіны.

14. У выпадку паступлення ў магазін тавара без дакументаў і кіпкарт (бездакументная партыя), магазін павінен неадкладна паведаміць аб гэтым пастаўшчыка і па выходу 24-х гадзін з моманта атрымання тавара прыступіць да яго колькаснай і якаснай прыёмкі, складаючы аб гэтым акт з удзелам прадстаўніка грамадскасці. Тавар трэба ўзважыць па кожнаму прыбыўшаму месцу (нета, брута), распакаваць і праверыць наяўнасць у кожным месцы (у кавалках, метражы, дзесятках, штуках і т. д.) і ацаніць па цэнах гандлёвага прэйскуранта.

15. Разбракоўка тканей праводзіцца ў раскідку ў адлюстраваным свеце на браковачным стале або шляхам вертыкальнай перакаткі тканей з невялікім ухілам супроць света (шэрсцяныя ткані, меланж, пестратканыя і т. д.).

16. Колькасць пробных кавалкаў тканей, якія належаць агляду, з распаўсюджваннем вынікаў агляду на ўсю партыю, вызначаецца адпаведнымі остамі або дагаварамі паміж спажыўцамі і пастаўшчыкамі.

17. Акты аб якаснай прыёмцы тэкстыльных тканей, а таксама акты ў тых выпадках, калі недахоп паштучных тавараў (скацерцяў, ручнікоў, салфетак, і т. д.) выяўлен не ў момант самой прыёмкі, а пры наступнай разборцы і сартыроўцы тканей, складаюцца магазінам з захаваннем устаноўленых у дагаворы тэрмінаў, а ў тых выпадках, калі тэрміны такіх прэтэнзій дагаворам не прадугледжаны, трэба кіравацца інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР.

18. Магазін павінен быць забяспечан вышэйстаячай гандлёвай арганізацыяй інструкцыямі па прыёмцы і разбракоўцы тканей па валакнам, а таксама адпаведнымі стандартамі.

## III. Хаванне

19. Падсобнае памяшканне для хавання тэкстыльных тавараў павінна быць светлым, сухім і з добрай вентыляцыяй.

20. Для прадухілення ад выгарання і выцвятання тэкстыльных тавараў, якія больш другіх падаюцца гэтаму (шоўк, камвольныя ткані, віскоза, сацін і т. д.), і для захавання іх выгляду і свежасці неабходна гэтыя ткані абарачваць у паперу да краёў ліцавога боку. Каштоўны паштучны тавар трэба абарачваць у картон або ўкладваць у асоба прыстасаваныя скрыні.

21. Укладка тканей у падсобным памяшканні павінна праводзіцца з такім разлікам, каб можна было, не парушаючы парадка ў штабелі, вынуць кіпу або кавалак тавара, а таксама перыядычна іх перакладваць для прадухілення псавання тканей ад злежвання і сагравання. Пры гэтым неабходна захаваць правіла, што тавар ні з падлогай, ні з сценамі непасрэдна не сутыкаецца.

22. Памяшканне, дзе захоўваецца тавар, павінна мець гладкія сцены, каб не затрымліваўся на іх пыл.

23. Для ўстанаўлення ў падсобным памяшканні правільнай сістэмы размяшчэння тэкстыльных тканей і іх хуткага знаходжання неабходна, каб кожная група і гатунак тканей мелі сваё пастаяннае месца і былі размечаны адпаведнымі адзнакамі.

24. Шэрсцяныя, суконныя і зімнія тавары, якія асталіся ад сезона, а таксама ўвесь запас гэтых тавараў трэба акуратна запакаваць, прадухіліўшы іх ад псавання моллю. Для гэтага неабходна ачысціць іх ад пылу, перасыпаць нафталінам або махорачным табакам, або папырскаць скіпідарам. Паперу, у якую запакоўваюцца гэтыя тавары, таксама неабходна апырскваць скіпідарам.

25. Укладка тавараў павінна папярэдзіць магчымасць стварэння залежаў раней паступіўшых партый, у выніку заграмаджэння іх партыямі тавараў, якія паступілі пазней.

26. Усе месцы хавання тэкстыльных тавараў як у падсобным памяшканні, так і ў гандлёвай залі павінны быць забяспечаны сродкамі барацьбы з грызунамі (мышалоўкі, электрапастаўкі [?]

27. Магазіны павінны быць забяспечаны спраўнымі агнетушыцелямі і інш. супроцьпажарнымі прыстасаваннямі ў адпаведнасці з устаноўленымі правіламі супроцьпажарнай аховы.

28. Магазін павінен быць забяспечан вышэйстаячай арганізацыяй спецыяльнай інструкцыяй па хаванню паасобных тканей дапасавана іх індывідуальных асаблівасцей.

## IV. Арганізацыя продажу

29. Тэкстыльныя тавары, якія паступаюць у гандлёвую залу, павінны быць папярэдне распакаваны, рассартаваны і расцэнены. Цэны, артыкул, гатунак і т. д. павінны быць абазначаны на ярлыку, які прымацоўваецца да кожнага кавалка ткані.

30. Шэрсцяныя, шоўкавыя і суконныя ткані падаюцца на рабочае месца заматанымі на дошку, каб не губляць час на складванне ткані пасля водпуску тавара пакупніку.

31. Кожны кавалак ткані да поўнага яго продажу павінен мець фабрычны ярлык і кляймо.

32. Прадавец пры атрыманні тканей на рабочае месца павінен праверыць правільнасць меры (даўжыня незаматанага на дошку кавалка) шляхам вымервання метрам даўжыні штаба (складкі) і падліку колькасці гэтых штабаў.

33. Магазін павінен на аснове ўліку штодзённага попыту і продажу ўстанавіць неабходны кожнаму рабочаму месцу нармальны рабочы запас у належным асартыменце.

34. Пры размяшчэнні тавараў у рабочага месца трэба ўлічваць неабходнасць блізкага размяшчэння тавараў звычайна разам купляемых (звязнасць попыту) і зручнасць работы прадаўца, а таксама забяспечыць магчымасць агляду тавараў пакупнікам.

35. Прадавец абавязан аказваць пакупніку неабходную садзейнасць пры выбары ім патрэбных тканей, знаёмячы яго з якасцю, цаной, спосабам карыстання і захавання пакупаемага тавара.

Пры выбары аддзелкі для плацця прадавец павінен дапамагчы пакупніку выбраць спалучэнне колераў, прыкладваючы аддзелку да асноўнага матэрыялу; пры выбары бручных тканей прадавец павінен скласці ткань у выглядзе брук; пры выбары касцюмнага матэрыялу прадавец накідвае на сябе прапанаемы тавар і т. д.

36. Прылавак павінен быць абавязкова гладкім, чыстым і пакрытым лакам, каб пазбегнуць псавання раскладваемага на ім тавару.

37. Каб пазбегнуць прамеру ткані неабходна таўстыя і цяжкія ткані адмерваць у адкідку (адброску) на прылаўку; тонкія і лёгкія ткані—у накатку на метр. Пры адмерванні тканей ні ў якім разе не дапускаецца выцягванне іх, што вядзе да абмервання пакупніка.

38. Прадавец абавязан пры водпуску тавара пакупніку акуратна правяраць ткань з тым, каб ва ўсіх выпадках выяўлення браку ў тавары або неадпаведнасці браку ўстаноўленай скідцы із'яць з продажу гэты тавар і скласці адпаведны акт.

39. Бракаваны тавар пускаецца ў продаж па паніжанай цане згодна зробленай уцэнкі, аб чым павінна быць указана ў прымацаваным да тавара ярлыку.

40. Пры продажу бракаваных тавараў прадавец абавязан паставіць аб гэтым у вядомасць пакупніка, указаўшы яму, якую скідку ён атрымлівае за брак.

41. Магазін абавязан праводзіць абмен пр433данага ім тавара ў выпадку выяўлення пакупнікам яго нядобраякаснасці.

Адзнакі нядобраякасных тавараў, тэрміны, на працягу якіх можа быць праведзен абмен, а таксама ўмовы і парадак абмену вызначаюцца існуючай інструкцыяй, выдаваемай Наркамунутгандлем СССР.

42. Магазін павінен арганізаваць патрэбную інфармацыю аб таварах, якія астаюцца і паступаюць у магазін, і аб цэнах на тавары шляхам абсталявання ўнутраных і знадворных вітрын у адпаведнасці з правіламі абсталявання і ўтрымлівання вітрын у гандлёвым памяшканні, зацверджанымі Наркамунутгандлем СССР 3|VII-35 г.

43. Для азнаямлення пакупніка з установленымі цэнамі ў магазіне павінны знаходзіцца на відным месцы прэйскуранты рознічных цэн прадаваемых тавараў. Акрамя прэйскурантаў цэны павінны быць абазначаны на ярлыках пры кожным тавары, на тары або на месцах знаходжання тавараў.

44. Магазін павінен арганізаваць сістэматычнае і штодзённае вывучэнне спажывецкага попыту, кіруючыся пры гэтым цыркулярам НКУГандля СССР ад 2|VII-35 г. № 12653.

45. Для павышэння якасці абслугоўвання пакупнікоў дапасавана да іх патрэбнасцей і густу і найбольшага прыстасавання да іх вытворчасці тэкстыльных тавараў магазін павінен непасрэдна або праз вышэйстаячую гандлёвую арганізацыю прыняць меры да складання і перадачы прамысловасці ва ўстаноўленым парадку папярэдніх заказаў.

46. Курэнне ў магазіне катэгарычна забараняецца.

47. Гандлёвая арганізацыя, у склад якой уваходзіць магазін тэкстыльных тавараў (спецыяльны або змешаны), абавязана прыняць меры к таму, каб гэтыя правілы гандля тэкстыльнымі таварамі былі даведзены да ведама работнікаў гэтых магазінаў.

---

## Аб дазволе паштучнага продажу некаторых вагавых тавараў

### Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля СССР

22 красавіка 1936 г. **№ 1207** г. Масква.

1. Дазволіць гандлюючым арганізацыям, побач з вагавым продажам наступных тавараў, праводзіць таксама і паштучны продаж:

**Кандытарскія тавары:** ірыс, шакалад (з каробак), монпасье, карамель, пячэнне, пранікі.

**Рыбныя тавары:** ракі, устрыцы, селядзец мерны.

**Усе кулінарныя тавары:** катлеты, піражкі і інш.

**Хлебабулачныя вырабы:** баранкі, сушкі, здоба і інш.

2. Устанавіць, што пакупнік мае права патрабаваць побач з паштучным водпускам таксама і вагавы водпуск гэтых тавараў і ў тым выпадку, калі магазін не з'яўляецца спецыяльным магазінам паштучнага продажу.

3. Устанавіць, што ў паштучны продаж дапускаюцца тавары толькі аднастайныя па якасці, памеру і вазе кожнай адзінкі з хістаннямі ў вазе не больш як на 2 проц.

4. Устанавіць, што рознічная цана на адзінку гэтых тавараў устанаўліваецца шляхам дзялення зацверджанай рознічнай цаны за кгр. на колькасць адзінкі тавараў у кілограме. Устанаўленне колькасці адзінак данага тавара ў 1 кгр. вагі (г. зн. вызначэнне сярэдняй вагі адной адзінкі тавара) праводзіцца камісіяй у складзе: прадстаўніка данай гандлюючай арганізацыі і прадстаўніка адпаведнага Горрайунутгандля з складаннем адпаведнага акта.

5. Устанавіць, што пры паштучным продажу тавараў згодна п. п. 1—4 гэтай пастановы ніякае акругленне цэн у магазіне не дапускаецца.

6. Устанавіць, што ў магазінах побач з вывешваннем прэйскурантаў рознічных цэн за кгр. павінен быць вывешан таксама прэйскурант тавараў, прадаваемых паштучна.

7. Абавязаць Дзяржаўную гандлёвую інспекцыю, а таксама Наркамунутгандлі рэспублік, край (абл.) унутгандлі, гар. райунутгандлі ўстанавіць сістэматычны кантроль за паштучным продажам тавараў, згодна гэтай пастановы, з мэтай недапушчэння магчымых злоўжыванняў, у прыватнасці, перавышэння цэн.

8. Абавязаць гар. райунутгандлі ўстанавіць такі парадак іх удзелу ва ўстанаўленні цэн на адзінку тавара, прадаваемага паштучна, пры якім быў-бы забяспечан аднолькавы ўзровень гэтых цэн у розных гандлёвых прадпрыемствах данага горада ці пасёлка.

Нарком Унутранага Гандля СССР **Вейцэр.**

---

## Адпускаць спажыўцу выключна добраякасныя прадукты

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

27 красавіка 1936 г. **№ 402** г. Менск.

У сувязі з наступленнем цёплага надвор'я, у мэтах папярэджання выпадкаў водпуску спажыўцам нядобраякасных прадуктаў з магазінаў і прадпрыемстваў грамадскага харчавання, Наркамунутгандаль БССР

пастанаўляе:

1. Абавязаць асабіста кіраўнікоў усіх гандлюючых арганізацый і арганізацый грамадскага харчавання прыняць неадкладныя меры, якія забяспечваюць падрыхтаванасць да ўмоў летняга гандля гандлёвай сеткі і сеткі грамадскага харчавання.

2. Важнейшымі мерапрыемствамі, якія забяспечваюць падрыхтаванасць да летняга часу гандлёвай сеткі, павінны быць:

а) забяспечанасць ільдом і гатоўнасць халадзільнага абсталявання ва ўсіх магазінах, палатках, ларках, сталовых, буфетах, якія гандлююць хутка-псуючыміся прадуктамі;

б) прывядзенне ў парадак памяшканняў, хавальняў (абсталяванне, санітарна-гігіенічнае ўтрыманне);

в) забеспячэнне якасці ўсіх прадуктаў пры прыёмцы, хаванні і водпуску. Прыём прадуктаў, якасць

якіх выклікае малейшае сумненне, павінен правадзіцца толькі з візай сан. нагляда.

3. Папярэдзіць усіх кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і прадпрыемстваў грамадскага харчавання, а таксама загадчыкаў магазінаў, што ў выпадках атручванняў, захворванняў ад спажывання прадуктаў, купленых у магазінах, сталовых, буфетах, будуць прыцягвацца да адказнасці не толькі загадчыкі магазінаў, але і кіраўнікі гандлюючых арганізацый і арганізацый грамадскага харчавання.

4. Прыняць да ведама паведамленне дзяржаўнай санітарнай іспекцыі, што ёю даны адпаведныя ўказанні ўсім раённым аддзелам аховы здароўя аб праверцы падрыхтаванасці да летняга перыяда ўсёй сеткі.

Прапанаваць усім акруговым, гарадскім і раённым унутгандлям разам з дзяржгандальінспекцыяй 3—5 мая правесці праверку падрыхтаванасці сеткі, гандлюючай хутка-псуючыміся прадуктамі, і сеткі грамадскага харчавання і ўстанавіць неаслабны нагляд за безумоўным выкананнем гэтай пастановы. Матэрыялы праверкі павінны быць абгаворань ў горсоветах, выканкомах і копіі матэрыялаў павінны быць дасланы Наркамунутгандлю.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

---

## Павышэнне расцэнак прадаўцам тавараў штодзённага попыту

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

26 красавіка 1936 г. **№ 409** г. Менск.

У адпаведнасці з загадам Наркамунутгандля СССР № 1182 ад 19/IV-36 г. і ў змену пастановы Наркамунутгандля БССР № 246 ад 17/III-36 г. аб устанаўленні дадатковай узнагароды для прадаўцоў тавараў штодзённага попыту, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Павысіць існуючыя патаварныя расцэнкі для прадаўцоў тавараў штодзённага попыту ў сярэднім на 40 проц., у залежнасці ад асаблівасцей кожнага з гэтых тавараў: па цукру, кандытарскіх вырабах масавых гатункаў, мылу гаспадарчаму і запалках—на 40 проц., махорцы—на 35 проц., мылу туалетнаму—на 45 проц., фасолі—на 55 проц.

2. Прапанаваць дырэктарам мясцовых торгаў і кіраўнікам гандлюючых арганізацый сістэмы Наркамунутгандля ўстанавіць улік продажу вышэйпаказаных тавараў кожным прадаўцом. У выпадку, калі гэта не прадстаўляецца магчымым, дазваляецца ўжыванне брыгаднай аплаты.

3. Прапанаваць кіраўнікам гандлюючых арганізацый на працягу трох дзён давесці новыя павышаныя расцэнкі па таварах штодзённага попыту да кожнага магазіна і кожнага работніка прылаўка—прадаўцоў, загадчыкаў аддзяленняў і інш.

4. Устанавіць, што разлікі па аплаце за продаж гэтых тавараў праводзяцца штомесячна адначасова з разлікамі па выплаце зарплаты.

5. Прапанаваць торгам і гандлюючым арганізацыям сістэмы Наркамунутгандля пры правядзен н праверкі ітогаў увядзення новых норм выпрацоўкі і расцэнак, адначасова, шляхам выбарачнага абследвання, праверыць, як ажыццяўляецца гэтая пастанова на месцах у канторах, магазінах.

6. Прапанаваць гарадскім і акруговым унутгандлям устанавіць штодзённы нагляд за ходам выканання гэтай пастановы.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. Гурэвіч.**

---

## Хто не выконвае загад № 2091

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

7 мая 1936 г. **№ 417** г. Менск.

З падлягаўшых праверцы 37 магазінаў у Бешанковіцкім раёне праверана 30 магазінаў. У 4-х магазінах адсутнічаюць паасобныя тавары: соль, мыла туалетнае, кандытарскія вырабы танных гатункаў. 16 магазінаў не маюць планаў продажу тавараў штодзённага попыту. Асартыментныя кнігі адсутнічаюць у 19 магазінах. Па 14 магазінах выяўлена парушэнне ўстаноўленага запасу тавараў.

Даных аб выкананні плана продажу за І-шы квартал няма. Усе гэтыя парушэнні адносяцца да сістэмы Бешанковіцкага райспажыўсаюза.

Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама паведамленне Бешанковіцкага райунутгандля, што за адсутнасць солі ў магазінах сельпо старшыні Пажарышчанскага сельпо СЕНКЕВІЧ і Астравенскага сельпо ПЕТРАШКА прыцягнуты да судовай адказнасці і ўвесь матэрыял перадан ужо пракурору. Прасіць Бешанковіцкага райпракурора паскорыць разбор справы.

2. Абавязаць Бешанковіцкі Райунутгандаль т. СЕМЕНІДО прыняць неадкладныя меры, якія, безумоўна, забяспечылі-б насычэнне сеткі ўсімі таварамі штодзённага попыту, і правесці паўторную суцэльную праверку ўсёй гандлёвай сеткі раёна.

Папярэдзіць т. СЕМЕНІДО, што за малейшае парушэнне загада № 2091 (адсутнасць тых ці іншых тавараў, недавядзенне планаў продажу, адсутнасць асартыментных кніг) ён будзе прыцягнут да судовай адказнасці.

3. Звярнуць увагу старшыні Белкаапсаюза т. БАСКІНА на тое, што з боку Бешанковіцкага райспажыўсаюза дапушчана грубейшае парушэнне загада №2091. Прасіць т. БАСКІНА камандыраваць у Бешанковіцкі райспажыўсаюз адказнага работніка для знішчэння ўсіх недахопаў.

4. Райунутгандлю прадставіць матэрыялы паўторнай суцэльнай праверкі Наркамунутгандлю не пазней 15 мая г. г. Адначасова прадставіць даныя аб выкананні плана продажу тавараў штодзённага попыту за красавік.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. Гурэвіч.**

# Аб незаконным павышэнні цэн на піва

## ЗАГАД

**па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР**

20 красавіка 1936 г. **№ 156** г. Менск.

Праверкай Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі ўстаноўлена, што былы дырэктар фабрыкі-кухні т. **Рудзенкоў** і намеснік дырэктара рэстарана станцыі Менск т. **Бейлін** незаконна павысілі рознічныя цэны на піва. Фабрыка-кухня прадавала піва па 1 р. 60 к. за бутэльку замест 1 р. 08 к., станцыйны рэстаран замест 1 р. 14 к. прадаваў бутэльку піва па 1 р. 24 к.

Загадваю:

1. Устаноўленыя былым дырэктарам фабрыкі-кухні т. **Рудзенковым** цэны на піва адмяніць як няправільныя.

2. Прыняць да ведама заяву т. **Бейліна**, што бухгалтар рэстарана т. **Салавейчык** знят з работы за павышэнне цэн.

3. Папярэдзіць дырэктароў прадпрыемстваў грамадскага харчавання, што калькуляцыя цэн на буфетную і кухонную прадукцыю павінна зацвярджацца асабіста дырэктарам прадпрыемства грамадскага харчавання і за незаконнае павышэнне цэн асабістая адказнасць ускладаецца на дырэктароў прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

# Ліквідацыя збытавога Канвенцбюро

## ЗАГАД

**па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР**

20 красавіка 1936 г. **№ 155** г. Менск.

На падставе пастановы СНК БССР № 245 ад 27/III 1936 г. аб ліквідацыі Канвенцбюро па ўстанаўленню збытавых цэн на сельскагаспадарчыя прадукты загадваю:

1. Збытавое Канвенцбюро НКУГ БССР па ўстанаўленню збытавых цэн на с|гасп. прадукты лічыць ліквідаваным.

2. Распрацоўку праектаў пастаноў аб цэнах на с|гасп. прадукты, на якія адсутнічаюць адзіныя рознічныя цэны, ускласці на групу цэн аддзела прамысловых і прадуктовых тавараў НКУГ БССР.

3. Групе цэн пры распрацоўцы праектаў пастаноў аб цэнах на с|гасп. прадукты кіравацца загатоўчымі цэнамі Ўпаўнаважанага камітэта загатовак СНК СССР па БССР з улікам выдаткаў звароту гандлюючых арганізацый.

Нарком Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

# Новыя назвы гатункаў смятаны

## З ПАСТАНОВЫ

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

22 красавіка 1936 г. **№ 382** г. Менск.

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 338 Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

Устанавіць наступныя новыя назвы гатункаў смятаны: 1) Вышэйшы гатунак, 2) Першы гатунак, 3) Другі гатунак.

Дзейнічаючыя аптова-адпускныя і рознічныя цэны на смятану ўжываць да новых назваў гатункаў.

На вышэйшы гатунак распаўсюдзіць цэны былога 1-га гатунку, на першы гатунак—цэны былога другога гатунку і на другі гатунак распаўсюдзіць цэны былога трэцяга гатунку.

## ПРЭЙСКУРАНТ

## рознічных цэн на жывую рыбу мясцовага лова

(Зацверджан пастановай НКУГ БССР ад 22/IV-36 г. № 384)

| | За кгр. | |
|---|---|---|
| | Руб. | Кап. |
| Судак буйны вагой 2 кгр. і вышэй | 4 | 70 |
| Судак сярэдні вагой ад 500 грам да 2 кгр. | 3 | 70 |
| Судак дробны вагой ад 200 да 500 грам | 3 | 70 |
| Шчупак буйны ад 1 кгр. і вышэй | 4 | 30 |
| Шчупак сярэдні ад 1 кгр. і ніжэй | 3 | 95 |
| Налім неразбор | 4 | 90 |
| Акунь чырвоны ад 500 грам і вышэй | 3 | 70 |
| „ сярэдні ад 300 грам да 500 грам | 3 | 70 |
| „ дробны ад 100 грам да 300 грам | 2 | 20 |
| Карась буйны ад 500 грам і вышэй | 3 | 70 |
| „ сярэдні ад 300 да 500 грам | 2 | 20 |
| „ дробны ніжэй 300 грам | 2 | 20 |
| Язь буйны ад 500 грам і вышэй | 3 | 70 |
| „ сярэдні ад 300 да 500 грам | 3 | 70 |
| „ дробны ад 100 да 300 грам | 2 | 70 |
| Лешч буйны ад 1 кгр. і вышэй | 4 | 05 |
| „ сярэдні ад 400 грам да 1 кгр. | 2 | 70 |
| „ дробны ад 200 да 400 грам | 2 | 20 |
| Платва буйн. ад 500 грам і вышэй | 2 | |
| „ сярэдн. ад 200 да 500 грам | 2 | |
| „ дробн. ад 100 да 200 грам | 1 | 50 |

# ЦЭНЫ

## Адпускныя цэны на вырабы Гомельскага швейпромсаюза з няпланавай сыравіны

### (Зацверджаны пастановай Канвенцыйнага бюро Наркамунутгандля БССР ад 11 красавіка)

| НАЗВА ВЫРАБАЎ | № прэйскуранта | Цана сыравіны | | Размер | Адпускная цана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. | Кап. | | Руб. | Кап. |
| П/пальто мужч. ватн. шэрсцян. двухбортн. з мехавым каўнерам | 1—5—1—39 | 40 | — | 48—52 | 134 | 58 |
| П/пальто мужч. ватн. шэрсц. двухбортнае з халодным каўнерам | 1—6—1—39 | 40 | — | 48—52 | 133 | 75 |
| Брукі ватн. шэрсц. без манжэт . . . . . . . . . | 1—9—1—39 | 40 | — | 48—52 | 64 | 12 |
| Брукі ватн. шэрсц. з манжэтамі . . . . . . . . . . | 1—9—2—39 | 40 | — | 48—52 | 66 | 48 |
| „ „ „ галіфэ . . . . . . . . . . . . . . | 1—10—1—39 | 40 | — | 48—52 | 61 | 41 |
| Талстоўка шэрсц. гладк. . . . . . . . . . . . . | 1—13—1—39 | 40 | — | 48—52 | 93 | 59 |
| „ „ адкрыт. са складкамі . . . . . . . | 1—13—2—39 | 40 | — | 48—52 | 108 | 13 |
| П/пальто мужч. ватн. двухбортн. баваўняна-папяров. з халодн. каўнерам . . . . . . . . . . . . . . . . | 2—1—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 63 | 68 |
| Касцюм баваўняна-папяровы двойка двухбортны . . . . | 2—2—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 65 | 52 |
| Куртка бав.-папяровая аднабортная з брукамі без падкладкі . | 2—3—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 57 | 42 |
| Брукі баваўн.-папяр. без манжэт . . . . . . . . | 2—5—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 20 | 60 |
| „ „ „ з манжэтамі . . . . . . . . | 2—6—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 21 | 52 |
| „ „ „ з поўгаліфэ . . . . . . . . | 2—7—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 19 | 70 |
| Талстоўка бав.-папяр. гладкая . . . . . . . . . . | 2—9—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 29 | 11 |
| „ „ „ адкрыт. са складк. . . . . . . | 2—9—2—138 | 4 | 80 | 48—52 | 33 | 46 |
| Пальто жаноч. ватн. шэрсцян. з халодным каўнерам . . . | 6—7—1—39 | 40 | — | 48—52 | 125 | 39 |
| Юбка жаночая шэрсц. гладк. удаўжоная . . . . . . | 6—13—1—39 | 40 | — | 48—52 | 47 | 09 |
| Юбка жаночая шэрсц. са складкамі . . . . . . . . | 6—13—3—39 | 40 | — | 48—52 | 56 | 11 |
| П/пальто жаноч. бав.-папяр. з халодным каўнерам . . . . | 7—1—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 62 | 53 |
| Плацце жаночае баваўн.-папяров. гладкае з даўгімі рукавамі . | 7—2—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 27 | 23 |
| Юбка жаночая баваўн.-папяров. гладкая . . . . . . | 7—4—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 12 | 58 |
| Юбка жаночая баваўн.-папяровая са складкамі . . . . . | 7—4—2—138 | 4 | 80 | 48—52 | 16 | 01 |
| Блузка жаноч. баваўн.-папяровая гладкая з даўгімі рукавамі . | 7—5—1—138 | 4 | 80 | 48—52 | 17 | 19 |
| Блузка жаночая баваўн.-папяровая фасонная . . . . . | 7—5—2—138 | 4 | 80 | 48—52 | 18 | 90 |
| Пальто мальчыков. ватн. шэрсцян. з мехавым каўнерам . . | 12—1—1—39 | 40 | — | 40—42 | 124 | 11 |
| Брукі мальчыков. шэрсцян. даўгія з манжэтамі . . . . . | 12—8—2—39 | 40 | — | 40—42 | 55 | 61 |
| Талстоўка мальчыков. шэрсцян. гладкая . . . . . . . | 12—10—1—39 | 40 | — | 40—42 | 74 | 51 |
| Пальто мальчыков. баваўн.-папяров. з хлясцікам на 2 гузіка . | 13—1—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 56 | 98 |
| Касцюм мальчыковы баваўн.-папяровы ардзінарны з брукамі . | 13—3—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 41 | 32 |
| Брукі мальчыков. баваўн.-папяровыя без манжэт . . . . . | 13—3—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 17 | 77 |
| Пальто дзіцячае баваўн.-папяровае . . . . . . . . . | 16—1—1—138 | 4 | 80 | 28—30 | 38 | 65 |
| Касцюм дзіцячы баваўн.-папяровы з кароткімі брукамі . . | 16—2—1—138 | 4 | 80 | 28—30 | 25 | 15 |
| Брукі дзіцяч. баваўн.-папяровыя кароткія на брэтэлях . . . | 16—3—1—138 | 4 | 80 | 28—30 | 10 | — |
| Пальто для дзяўчынкі баваўняна-папяровае . . . . . . | 18—1—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 54 | 90 |
| Плацце для дзяўчынкі баваўняна-папяровае гладкае . . . | 18—3—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 21 | 01 |
| Юбка для дзяўчынкі баваўняна-папяровая . . . . . . | 18—4—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 10 | 09 |
| Касаваротка мужчынская . . . . . . . . . . . . | 22—6—138 | 4 | 80 | 48—50 | 22 | 25 |
| Сарочка мужч. ніжняя адкрыты каўнер Гейша . . . . . | 22—10—138 | 4 | 80 | 48—50 | 18 | 62 |
| Кальсоны мужч. грамадс. тыпу з манжэтамі . . . . . . | 22—11—138 | 4 | 80 | — | 13 | 76 |
| Сарочка жаночая на брэтэлях . . . . . . . . . . | 23—1—2—138 | 4 | 80 | — | 12 | 19 |
| Касаваротка мальчыковая . . . . . . . . . . . . | 24—4—138 | 4 | 80 | 40—42 | 15 | 94 |
| Сарочка ніжн. мальчыков. Гейша . . . . . . . . . | 24—6—138 | 4 | 80 | — | 14 | 19 |
| Рэйтузы для дзяўчынкі баваўняна-папяровыя . . . . . . | 26—4—138 | 4 | 80 | — | 9 | 56 |
| Бюстгалтары . . . . . . . . . . . . . . . . | 23—5—138 | 4 | 80 | 48—50 | 2 | 01 |
| Сарочка ніжняя для дзяўчынак . . . . . . . . . . | 27—1—138 | 4 | 80 | 40—42 | 10 | 53 |
| Распашонка дзіцячая . . . . . . . . . . . . . | 30—5—138 | 4 | 80 | — | 3 | 64 |
| Плацце для дзяўчынкі баваўн.-папяровае фасоннае . . . . | 18—3—2—138 | 4 | 80 | 40—42 | 21 | 55 |
| Сарафан жаночы шэрсцяны . . . . . . . . . . . | — | 40 | — | 48—50 | 75 | 92 |
| Целагрэйка ватн. баваўняна-папяровая ост. 5171 . . . . . | 13—1—138 | 4 | 80 | 48—50 | 39 | 19 |
| Целагрэйка ватн. баваўн.-папяров. ост. 5172 . . . . . . | — | 4 | 80 | 48—50 | 48 | 17 |
| Шаравары ватн. баваўн.-папяров. ост. 5174 . . . . . . | 13—2—138 | 4 | 80 | 48—50 | 33 | 66 |
| Капітанкі баваўн.-папяровыя . . . . . . . . . . | 32—2—1—138 | 4 | 80 | — | 3 | 52 |
| Кепі сукон. на ваце фасонныя . . . . . . . . . . | 31—1—2—39 | 40 | — | — | 11 | 99 |
| Кепі баваўняна-папяровыя фасонныя . . . . . . . . | 32—1—7—138 | 4 | 80 | — | 4 | 93 |
| Бельгійкі суконныя . . . . . . . . . . . . . . | 31—2—1—39 | 40 | 80 | — | 9 | 91 |
| „ баваўняна-папяровыя . . . . . . . . . . | 32—2—1—138 | 4 | 80 | — | 3 | 41 |
| Капітанкі сукон. дзіцячыя . . . . . . . . . . . | 36—1—1—39 | 40 | — | — | 6 | 43 |
| Матроскі суконныя дзіцячыя . . . . . . . . . . | 36—1—1—39 | 40 | — | — | 7 | 18 |
| Капітанкі суконныя для дарослых . . . . . . . . . | 31—2—1—39 | 40 | — | — | 9 | 18 |

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 412, тел. 25-691. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160012.

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа

Пряники саксонские 1 сорта из муки 75-проц.—15 тонн—5 р. 35 к. кгр., франко-производство, акцепт.

Сушки из муки 85-проц.—50 тонн—3 р. 33 к. кгр. фр.-склад продавца, акцепт.

Кондитерские изделия—300 тонн, в ассортименте: мармелад и пастила—40 проц., карамель в обертке—40 проц., печенье разное—20 проц. Цена утверждена НКВТ СССР, фр.-производство, акцепт.

Баранки сахарные из муки 30-проц.—по 40—45 шт. в кгр.—500 кгр. ежедневно—6 р. 10 к. кгр., фр.-экспедиция хлебозавода, акцепт.

Печенье смесь—20 тонн—5100 руб. тонна, лимонка—20 тонн—4200 р. тонна, саксонка—20 тонн—4000 р. тонна, багдадские—с начинкой—4400 р. тонна, тоже без начинки—4000 р. тонна, ванильные—20 тонн—5000 руб., розочка—4200 р. тонна, сироп искусственный медовый—40 тонн—2740 руб., франко-склад продавца, акцепт.

Мед паточный 1 сорта—50 тонн—1800 р. тонна, франко-склад поставщика, акцепт.

Сироп клюквенный—на чистом сахаре—10 000 литров—4 р. 70 к., франко-вагон станция отправления, акцепт.

Повидло брусничное 1 сорта—5 тонн—3240 руб. тонна, франко-склад продавца, акцепт.

Повидло яблочное и фруктово-ягодное 1 сорта—200 тонн—3000 р. тонна, франко-вагон станция назначения, акцепт.

Мандариновое варенье—4 тонны—6620 р. тонна, франко-станция отправления, акцепт.

Консервы рыбные „Кет натурэль" 1 сорта—15000 банок—453 грамма нетто в банке—3 р. 21 к. банка, франко-склад продавца, акцепт.

Картофель сушенный—7,5 тонн—1936 р. тонна, морковь сушен. 1 тонна—2816 руб. за тонну, бураки столовые—сушенные—2 тонны—1936 руб. тонна, капуста сушенная—1 тонна—2552 руб., франко-склад продавца, акцепт.

Рябина сухая—50 тонн—1 р. 10 к. кгр. франко-вагон станция отправления, акцепт.

Помидоры зеленые соленые—8 тонн—440 руб. за тонну, франко-вагон, станция отправления, акцепт.

Махорка курительная № 2—по 50 грамм, в 30 кгр. стандартных ящиках, по 600 пачек в ящике—3000 ящиков—300 р. за ящик, фр. станция назначения, минус скидка для города—5 проц., для села—6 проц., акцепт.

### Промтоварная группа

Палочки деревянные точеные для массовых закупок—10 млн. штук—$1^1/_4$ коп. штука, фр.-склад производства, акцепт.

Гири чугунные—клейменные 1935 г.: 100 грамм—1 р. 01 к., 200 грамм—1 р. 29 к., 500 грамм—1 р. 62 к., 1 кгр.—2 р. 23 к., 2 кгр.—2 р. 80 к., 5 кгр.—5 р. 57 к., 10 кгр.—10 р. 35 к., 20 кгр.—18 руб., акцепт.

Верстаки столярные школьного типа—85 руб., фр.-склад поставщика, акцепт.

Замки висячие амбарные завода „Ударник"—2000 штук—4 р. 20 к., акцепт.

Втулки райбинированные № 2—25000 штук—1 р. 60 к., № 3—25000 штук—2 руб., акцепт.

Вата серая II сорта—30 тонн—2250 р. тонна, франко-склад продавца, акцепт.

Куртки на меху, верх тонкий суконный, мех овчинный—75 штук 212 руб., акцепт.

Металлическая швейная фарнитура I сорта: крючки проволочные платяные № 1—14000 м.—2 р. 10 к., № 2—26000 м.—3 р. 20 к., № 3—14000 м.—3 р. 80 к., № 4—брючные—6500 м.—4 р. 20 к., пряжки мал. меди—5500 м.—15 руб., пряжки молокоф—9500 м.—7 р. 70 к., франко-станция отправления, акцепт.

Глиняные эмалированные детские игрушки I сорта—на сумму 100 тыс. руб.: головка № 1—25 коп., головка № 2—30 к., № 3—35 к., „Пионер"—30 к., М. Петя—35 к., курица—30 к., петух—30 к., гольни № 1—15 коп., № 2—17 коп., № 3—20 коп., селезень—25 к., утка—20 к., лев—45 к., тигр—63 к., медведь—55 к., лиса—18 к., кролик крупный—18 к., свинья крупная—23 к., свинья мелкая—9 к., гусь—40 к., детсад—15 к. за штуку, акцепт.

Детские игрушки из папье-маше на сумму 125000 руб.

### Лесохимическая группа

Галипот из сосновой смолы—100 тонн—1000 р. тонна, фр.-вагон станция отправления, акцепт.

Лак асфальтовый—300 тонн—719 р. 60 к. за тонну, нетто, акцепт.

Смола строительная—250 тонн—393 р. 70 к. тонна, фр.-завод продавца, акцепт.

Смола сосновая вареная—200 тонн—600 р., франко-станция отправления—70 проц. аккредитивом, 30 проц. авансом при заключении договора.

Скипидар переочищенный—50 тонн 2127 р. тонна, франко-станция отправления, 70 проц. аккредитивом, 30 проц. авансом.

## СПРОС ТОВАРОВ

Яблоки крымские и кавказские, тюлька, сельди, камса, орехи, чернослив сушеный, урюк, сабза, изюм, сухо-фрукты, горчица сухая, лавровый лист, перец, колбаса, битая птица, консервы, сода, мак, макаронные изделия, уксусная эссенция, лук, фасоль, папиросы II и III сортов, гонт кровельный, скипидар, краска, толевый срыв, известь, мел комовой, канифоль, глицерин, серная кислота, черный лак, лоза, мешки, парафин, бутылки, клепка, краска, гуталинные банки, рукавицы утильные, пакля строительная.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-ты паверх, пак. 415, тэл. 22-540
Адк. рэдактар Н. Гурэвіч. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 591. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3261.